Нацыянальны інстытут адукацыі

Кантрольна-вымяральныя матэрыялы

В. Л. Лазіцкі

# Гісторыя Беларусі

## Тэставыя заданні

## 6–9 класы

Дапаможнік для настаўнікаў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай і рускай мовамі навучання

*Рэкамендавана Навукова-метадычнай установай «Нацыянальны інстытут адукацыі» Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*



Мінск
«Сэр-Вит»
2012

УДК 373.5.016:94(476)
ББК 74.266.3
Л17

Серыя заснавана ў 2011 годзе

Рэцэнзенты:
лабараторыя сацыякультурнай адукацыі Навукова-метадычнай установы «Нацыянальны інстытут адукацыі» Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь;
настаўнік гісторыі і грамадазнаўства вышэйшай катэгорыі дзяржаўнай установы адукацыі «Сярэдняя школа № 160 г. Мінска» *Т. Г. Яшчанка*

**Лазіцкі, В. Л.**
Л17 Гісторыя Беларусі : тэставыя заданні : 6–9-й кл. : дапаможнік для настаўнікаў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з белар. і рус. мовамі навучання / В. Л. Лазіцкі. – Мінск : Сэр-Вит, 2012. – 80 с. – (Кантрольна-вымяральныя матэрыялы).
ISBN 978-985-419-664-0.

Змест тэставых заданняў па гісторыі Беларусі адпавядае адукацыйнаму стандарту і праграмам сярэдняй агульнаадукацыйнай школы (VI–IX класы). Мэта дадзенага выдання – эфектыўная дапамога ў арганізацыі і ажыццяўленні вучэбна-пазнавальнай дзейнасці вучняў пры засваенні вучэбнага гістарычнага матэрыялу, яго абагульненні і сістэматызацыі, а таксама ў падрыхтоўцы да тэматычных і выніковых форм кантролю па гісторыі Беларусі.

**УДК 373.5.016:94(476)**
**ББК 74.266.3**

**ISBN 978-985-419-664-0**

# ПРАДМОВА

У прапануемы дапаможнік увайшлі комплексы тэставых заданняў па гісторыі Беларусі для вучняў VI–IX класаў. Змест гэтых заданняў адпавядае адукацыйнаму стандарту і прадметным праграмам для ўстаноў, якія забяспечваюць атрыманне агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай і рускай мовамі навучання ў Рэспубліцы Беларусь.

У працэсе арганізацыі і ажыццяўлення вучэбна-пазнавальнай дзейнасці вучняў абагульненню і кантролю падлягаюць тэарэтычныя, фактaлагічныя (у тым ліку картаграфічныя і храналагічныя) кампаненты вучэбных гістарычных ведаў. Іх вялікі аб'ём, а таксама навуковая праблематыка айчыннай гісторыі патрабуюць выкарыстання ў працэсе навучання сістэмнага і змястоўнага падыходу, без якога немагчымы станоўчы вынік вучэбных дасягненняў. Зварот да тэстаў дазваляе якасна ўзняць ступень засваення кампанентаў вучэбных ведаў і ўзровень падрыхтаванасці, паколькі тэст можа выконваць не толькі кантралюючую функцыю, але і выступаць у якасці сродка навучання. Выкананне тэставых заданняў дае магчымасць на кожнай стадыі навучання (сістэматызацыі, паўтарэння, абагульнення і кантролю) атрымліваць даныя аб узроўні ведаў вучня па тым ці іншым тэматычным напрамку, кампаненце вучэбных гістарычных ведаў і своечасова карэктаваць памылкі. Магчымасць самакантролю ў сваю чаргу якасна змяняе саму матывацыю працэса навучання.

Тэставыя заданні прапануюцца ў двух варыянтах згодна з тэматыкай кожнага радзела вучэбнай праграмы і выніковым абагульненнем. Прапануемы структурны падзел дазволіць настаўніку і вучням лепш арыентавацца ў змесце гістарычнага матэрыялу, а таксама зробіць працэс падрыхтоўкі больш сістэмным і мэтанакіраваным.

Кожны варыянт уяўляе сабой комплекс, які складаецца з дзесяці заданняў: тэставыя заданні закрытага тыпу, якія патрабуюць выбару аднаго варыянта адказу з мноства прапанаваных; заданні адкрытага тыпу, выкананне якіх патрабуе вызначэння прычынна-выніковых сувязей і прадугледжвае правільнае суаднясенне элементаў двух мностваў; заданні адкрытага тыпу, якія патрабуюць правільнага вызначэння паслядоўнасці змешчаных элементаў; заданні на завяршэнне фармулёўкі адказу, якія прадугледжваюць напісанне той ці іншай гістарычнай назвы, прозвішча ці словазлучэння (у дадзенай частцы

тэставага комплексу згодна з прапануемай спецыфікацыяй змяшчаюцца заданні для кантролю ў значнай меры тэарэтычных кампанентаў вучэбных гістарычных ведаў на ўзроўні ведання і разумення іх вучнямі).

Тэставы матэрыял дапаможніка можа быць выкарыстаны настаўнікам для канструявання ўласнага інструментарыя вымярэння вучэбных дасягненняў вучняў, а таксама падчас арганізацыі і правядзення факультатыўных заняткаў па гісторыі Беларусі.

# VI КЛАС
# Гісторыя Беларусі са старажытных часоў да сярэдзіны XIII ст.

## Раздзел 1. Беларускія землі ў старажытныя часы

### *Варыянт 1*

*Вызначце верны варыянт адказу:*

**1.** Храналагічны перыяд, на працягу якога адбылося першае пранікненне першабытнага чалавека на тэрыторыю Беларусі:

1) 600–300 тыс. гадоў да н. э.;
2) 100–35 тыс. гадоў да н. э.;
3) 24–21 тыс. гадоў да н. э.;
4) 5–3 тыс. гадоў да н. э.

**2.** Перыяд старажытнай гісторыі, калі ў гаспадаранні першабытнага чалавека адбыўся пераход да земляробства і жывёлагадоўлі:

1) палеаліт;
2) неаліт;
3) мезаліт;
4) бронзавы век.

**3.** Прадмет здабычы першабытных шахцёраў каля пас. Красасельскі Ваўкавыскага раёна:

1) вугаль;
2) калійная соль;
3) крэмень;
4) медзь і волава.

**4.** Матыка – гэта:

1) від зброі;
2) упрыгожанне;
3) прылада працы;
4) прыстасаванне для выплаўкі металу.

**5.** Калектыў старажытных людзей, якія вялі сумесную гаспадарку і валодалі прыладамі працы:

1) абшчына;
2) матрыярхат;
3) патрыярхат;
4) пасад.

*Вызначыце правільную паслядоўнасць:*

**6.** А) ворыўнае земляробства;
Б) збіральніцтва;
В) матычнае земляробства;
Г) падсечна–агнявое земляробства.

*Суаднясіце верна элементы двух мностваў:*

**7.** 1) абрад; 3) звычай;
2) абярэг; 4) міф.

А) вуснае апавяданне з фантастычнымі і чароўнымі выявамі;
Б) рытуальныя дзеянні, якія чалавек ажыццяўляе ў адпаведнасці са сваімі вераваннямі;
В) правілы паводзін, якіх прытрымліваюцца людзі;
Г) прадмет засцерагальнага прызначэння паводле вераванняў людзей.

1 __ 2 __ 3 __ 4 __

**8.** 1) ворыўнае земляробства; 3) матычнае земляробства;
2) збіральніцтва; 4) падсечна-агнявое земляробства.

А) барана-сукаватка;
Б) драўляная саха з жалезным нарогам;
В) каменная або рогавая матыка;
Г) палка-капалка.

1 __ 2 __ 3 __ 4 __

*Вызначце верна гістарычнае паняцце (тэрмін):*

**9.** ... – гэта тып умацаваных пасяленняў, якія ўзнікалі на тэрыторыі Беларусі на мяжы бронзавага і ранняга жалезнага вякоў.

**10.** ... – земляны насып над магілай памерлага чалавека.

### Варыянт 2

*Вызначце верны варыянт адказу:*

**1.** Храналагічны перыяд, на працягу якога адбылося рассяленне індаеўрапейцаў на тэрыторыі Еўропы, у тым ліку і на тэрыторыі Беларусі:

1) 600–300 тыс. гадоў да н. э.; 3) 24–21 тыс. гадоў да н. э.;
2) 100–35 тыс. гадоў да н. э.; 4) 3–1,5 тыс. гадоў да н. э.

**2.** Перыяд старажытнай гісторыі, калі ў гаспадаранні першабытнага чалавека ўпершыню адбыўся пераход да ўжывання металаў:

1) палеаліт; 3) ранні жалезны век;
2) неаліт; 4) бронзавы век.

**3.** Прадмет здабычы першабытнага чалавека падчас яго заняткаў бортніцтвам:

1) бурштын;
2) вугаль;
3) крэмень;
4) мёд.

**4.** Домніца – гэта:

1) від зброі;
2) упрыгожанне;
3) прадмет, які выкарыстоўвалі ў абрадзе пахавання;
4) прыстасаванне для выплаўлення металу.

**5.** Калектыў кроўных родзічаў у першабытным грамадстве – гэта:

1) абшчына;
2) віра;
3) матрыярхат;
4) род.

*Вызначце правільную паслядоўнасць:*

**6.** А) барана-сукаватка;
Б) драўляная саха з жалезным наканечнікам;
В) каменная або рогавая матыка;
Г) палка-капалка.

*Суаднясіце верна элементы двух мностваў:*

**7.** 1) абшчына;
2) племя;
3) род;
4) статак.

А) устойлівае аб'яднанне некалькіх родаў агульнага паходжання;
Б) калектыў кроўна родных людзей;
В) прыклад найбольш старажытнай супольнасці першабытных людзей;
Г) калектыў старажытных людзей, якія вялі сумесную гаспадарку і валодалі прыладамі працы.

1 __ 2 __ 3 __ 4 __

**8.** 1) арнамент;
2) скульптура;
3) курган;
4) міф.

А) уяўленні аб чароўных сілах прыроды;
Б) аб'ёмная пластыка;
В) упрыгожанне керамічных вырабаў;
Г) пахавальны абрад.

1 __ 2 __ 3 __ 4 __

*Вызначце верна гістарычнае паняцце (тэрмін):*

**9.** ... – гэта месца пасялення першабытнага чалавека.

**10.** Кіраўнік рода ці племені, найбольш вопытны (звычайна пажылы) чалавек – гэта ... .

## Раздзел 2. Жыццё насельніцтва беларускіх зямель у раннім сярэдневякоўі (V–IX стст.)

### *Варыянт 1*

*Вызначце верны варыянт адказу:*

**1.** Гістарычная падзея, з якой звязваецца працэс пранікнення ўсходнеславянскіх плямёнаў на тэрыторыю Беларусі:

1) падзенне Рымскай імперыі;
2) падзенне Візантыйскай імперыі;
3) завяршэнне славянізацыі балтаў;
4) Вялікае перасяленне народаў.

**2.** Храналагічныя межы, у якія адбывалася фарміраванне ўсходнеславянскіх племянных аб'яднанняў на тэрыторыі Беларусі:

1) IV–VI стст.;
2) VI–VIII стст.;
3) VII–VIII стст.;
4) VIII–IX стст.

**3.** Назва найбольш буйнога ўсходнеславянскага племяннога аб'яднання, адна з плыняў якога рассялілася на тэрыторыі Беларусі ў раннім сярэдневякоўі:

1) дрыгавічы;
2) бужане;
3) крывічы;
4) радзімічы.

**4.** Назва ўсходнеславянскага племяннога аб'яднання, адной з характэрных прыкмет якога з'яўляюцца жаночыя ўпрыгожанні ў выглядзе сяміпрамянёвых скроневых кольцаў:

1) дрыгавічы;
2) бужане;
3) крывічы;
4) радзімічы.

**5.** Ва ўсходніх славян месца ахвярапрынашэння багам – гэта:

1) даніна;
2) капішча;
3) пагост;
4) трызна.

*Вызначыце правільную паслядоўнасць:*

**6.** А) пачатак засялення тэрыторыі Беларусі ўсходнеславянскімі плямёнамі;
Б) пранікненне індаеўрапейцаў на тэрыторыю Еўропы;
В) славянізацыя балтаў;
Г) станаўленне беларускай народнасці.

*Суаднясіце верна элементы двух мностваў:*

**7.** 1) крывічы;
2) дрыгавічы;
3) радзімічы.

А) Прыпяць;
Б) Сож;
В) Заходняя Дзвіна.

1 __ 2 __ 3 __

**8.** 1) ідал;
2) панёва;
3) бурштын;
4) трызна.

А) жаночае адзенне ва ўсходніх славян;
Б) упрыгожанні ў балцкіх плямёнах;
В) пахавальны абрад;
Г) шматбожжа.

1 __ 2 __ 3 __ 4 __

*Вызначце верна гістарычнае паняцце (тэрмін) ці гістарычную назву (імя):*

**9.** Вярхоўны бог у пантэоне багоў усходніх славян – ... .

**10.** Назва ўсходнеславянскага племяннога аб’яднання, з гісторыяй якога звязваецца прымаўка «Пяшчанцы воўчага хваста бегаюць», – ... .

***Варыянт 2***

*Вызначце верны варыянт адказу:*

**1.** Гістарычная з’ява, якая адбывалася на тэрыторыі Беларусі ў VIII–IX ст.:

1) пранікненне індаеўрапейцаў;
2) пачатак славянізацыі балтаў;
3) разгортванне крыжацкай агрэсіі;
4) фарміраванне ўсходнеславянскіх племянных аб’яднанняў.

**2.** Перыяд, на які прыпадае пачатак пранікнення славян на тэрыторыю Беларусі:

1) IV–VI стст.;
2) VI–VII стст.;
3) VII–VIII стст.;
4) VIII–IX стст.

**3.** Назва ўсходнеславянскага племяннога аб'яднання, адной з характэрных прыкмет якога з'яўляюцца доўгія курганы:

1) дрыгавічы;
2) вяцічы;
3) крывічы;
4) радзімічы.

**4.** Назва ўсходнеславянскага племяннога аб'яднання, адной з характэрных прыкмет якога з'яўляюцца жаночыя ўпрыгожанні ў выглядзе скроневых кольцаў з пацеркамі, аздобленымі ў тэхналогіі зерні:

1) дрыгавічы;
2) бужане;
3) крывічы;
4) радзімічы.

**5.** Ва ўсходніх славян абрад развітання з нябожчыкам у выглядзе ваеннай гульні ці спаборніцтва – гэта:

1) віра;
2) капішча;
3) пагост;
4) трызна.

*Вызначыце дакладную паслядоўнасць:*

**6.** А) пачатак каланізацыі беларускіх зямель славянамі;
Б) эвалюцыя гарадоў на тэрыторыі Беларусі ў значныя палітычныя і культурныя цэнтры;
В) засяленне тэрыторыі Еўропы (у тым ліку Беларусі) індаеўрапейцамі;
Г) завяршэнне славянізацыі балтаў.

*Суаднясіце верна элементы двух мностваў:*

**7.** 1) крывічы;
2) дрыгавічы;
3) радзімічы.

А) Гомель (Гомій);
Б) Полацк;
В) Тураў.

1 __ 2 __ 3 __

**8.** 1) селішча;
2) світа;
3) паўзямлянка;
4) капішча.

А) верхняе адзенне ва ўсходніх славян;
Б) жытло балтаў;
В) неўмацаванае пасяленне;
Г) шматбожжа.

1 __ 2 __ 3 __ 4 __

*Вызначце верна гістарычнае паняцце (тэрмін) ці гістарычную назву (імя):*

**9.** У пантэоне багоў усходніх славян апякун жывёлагадоўлі – гэта ... .

**10.** Сыравіна для вырабу ўпрыгожанняў, якую ў Еўропе ў раннім сярэднявекоўі называлі «паўночным золатам» – ... .

## Раздзел 3. Сярэдневяковыя княствы на тэрыторыі Беларусі ў IX – сярэдзіне XIII ст.

***Варыянт 1***

*Вызначце верны варыянт адказу:*

**1.** Дата, на якую прыпадае першае прыгадванне ў гістарычных крыніцах Полацка:

1) 860 г.;
2) 862 г.;
3) 980 г.;
4) 984 г.

**2.** Прозвішча, пад якім у гістарычных крыніцах згадваецца полацкі князь Усяслаў Брачыславіч:

1) «Кніжнік»;
2) «Святы»;
3) «Удалы»;
4) «Чарадзей».

**3.** Назва катэгорыі залежнага сялянства, прадстаўнікі якога працавалі на феадала на падставе заключанай дамовы:

1) закуп;
2) смерд;
3) радовіч;
4) халоп.

**4.** Агульны збор сталых жыхароў горада (воласці) для вырашэння найбольш важных грамадскіх і дзяржаўных спраў:

1) дума;
2) веча;
3) пасад;
4) верв.

**5.** Выдатны асветнік Беларусі XII ст., якога празвалі «Тураўскім залатавустам»:

1) Аўрамій Смаленскі;
2) Мефодзій Салунскі;
3) Кірыла Тураўскі;
4) Клімент Смаляціч.

*Вызначыце правільную паслядоўнасць:*

**6.** А) бітва на Нямізе;
Б) першае прыгадванне ў гістарычных крыніцах Полацка;
В) першае прыгадванне ў гістарычных крыніцах Турава;
Г) хрышчэнне Русі.

*Суаднясіце верна элементы двух мностваў:*

**7.** 1) Ізяслаў Уладзіміравіч;
2) Валодша Полацкі;
3) Юрый Яраславіч;
4) Усяслаў Брачыславіч.

А) аднаўленне незалежнасці Тураўскага княства ад Кіева;
Б) аднаўленне незалежнай дынастыі полацкіх князёў;
В) барацьба з крыжацкай пагрозай;
Г) княжэнне ў Кіеве.

1 __ 2 __ 3 __ 4 __

**8.** 1) 980 г.;
2) 988 г.;
3) 992 г.;
4) 1005 г.

А) аднаўленне дынастыі полацкіх князёў;
Б) першае прыгадванне ў гістарычных крыніцах Турава;
В) заснаванне епархіі ў Полацку;
Г) заснаванне епархіі ў Тураве.

1 __ 2 __ 3 __ 4 __

*Вызначце верна гістарычнае паняцце (тэрмін) ці гістарычную назву (імя):*

**9.** Тэрмін, якім ва ўсходніх славян вызначалася месца найбольшага збліжэння суднаходных рэк – ... .

**10.** Ва ўсходніх славян запіс гістарычных падзей па гадах – ... .

### *Варыянт 2*

*Вызначце верны варыянт адказу:*

**1.** Дата, на якую прыпадае першае прыгадванне ў гістарычных крыніцах Турава:

1) 860 г.; 3) 980 г.;
2) 862 г.; 4) 984 г.

**2.** Першы гістарычна вядомы полацкі князь – гэта:

1) Алег; 3) Рагвалод;
2) Брачыслаў; 4) Усяслаў.

**3.** Назва катэгорыі залежнага сялянства, прадстаўнікі якога працавалі на феадала за ўзятую пазыку:

1) закуп; 3) радовіч;
2) смерд; 4) халоп.

**4.** Назва сельскай абшчыны ва ўсходніх славян:

1) дым; 3) віра;
2) валока; 4) верв.

**5.** Беларускія гарады, у якіх былі знойдзены берасцяныя граматы:

1) Брэст, Браслаў; 3) Мінск, Заслаўль;
2) Віцебск, Мсціслаў; 4) Полацак, Усвяты.

*Вызначыце правільную паслядоўнасць:*

**6.** А) Брачыслаў Ізяславіч;
Б) Ізяслаў Уладзіміравіч;
В) Рагвалод;
Г) Усяслаў Чарадзей.

*Суаднясіце верна элементы двух мностваў:*

**7.** 1) Ізяслаў Уладзіміравіч; 3) Уладзімір Святаславіч;
2) Рагнеда; 4) Усяслаў Брачыславіч.
А) «Бацька! Ты тут не адзін»;
Б) «Крестися вся земля Русская»;
В) «Не хачу разуці рабыніча»;
Г) «І сустрэліся праціўнікі на Нямізе...».

1 __ 2 __ 3 __ 4 __

**8.** 1) 862 г.; 3) 1044 г.;
2) 980 г.; 4) 1067 г.

А) бітва на Нямізе;
Б) пачатак княжання ў Полацку Усяслава Брачыславіча;
В) перапыненне лініі дынастыі полацкіх князёў Уладзімірам Святаславічам;
Г) першае згадванне Полацку ў гістарычных крыніцах.

1 __ 2 __ 3 __ 4 __

*Вызначце верна гістарычнае паняцце (тэрмін) ці гістарычную назву (імя):*

**9.** Ва ўсходніх славян збор даніны з падуладнага насельніцтва – ... .

**10.** Малюнак вадзянымі фарбамі па сырой тынкоўцы – гэта ... .

## *Выніковы тэст.* Гісторыя Беларусі са старажытных часоў да сярэдзіны XIII ст.

### *Варыянт 1*

*Вызначце верны варыянт адказу:*

**1.** Гістарычна першы калектыў першабытных людзей – гэта:
1) народнасць; 3) род;
2) племя; 4) статак.

**2.** Занятак першабытнага чалавека, які сведчыць пра існаванне прысвойваючай гаспадаркі:
1) збіральніцтва; 3) жывёлагадоўля;
2) земляробства; 4) керамічная вытворчасць.

**3.** Назва горада, які па звестках старажытных летапісаў быў адным з цэнтраў усходнеславянскага племяннога аб'яднання дрыгавічоў:
1) Гомель; 3) Полацк;
2) Менск; 4) Тураў.

**4.** Прозвішча першага гістарычна вядомага князя ў Полацку:
1) Брачыслаў; 3) Рагвалод;
2) Ізяслаў; 4) Усяслаў.

**5.** Старажытны беларускі горад – буйны цэнтр племяннога аб’яднання дрыгавічоў:




1) 1;
2) 2;
3) 3;
4) 4.

**6.** Ва ўсходніх славян збор даніны з падуладнага насельніцтва:

1) віра;
2) даніна;
3) палюддзе;
4) пагост.

**7.** Бажаство ва ўсходніх славян, апякун жывёлагадоўлі:

1) Велес;
2) Пярун;
3) Сварог;
4) Чур.

**8.** Вышэйшы сан у хрысціянскай царкве:

1) біскуп;
2) дыякан;
3) кардынал;
4) манах.

**9.** Горад, які звязаны з дзейнасцю славутага асветніка – «златавуста»:




1) 1;
2) 2;
3) 3;
4) 4.

**10.** Для працэсу хрысціянізацыі на тэрыторыі Беларусі было характэрна:

1) адсутнасць дакладна вызначаных прыкладаў масавага супраціўлення хрысціянізацыі;
2) масавае супраціўленне хрысціянізацыі;
3) пачатковае прыняцце хрысціянства вярхамі грамадства;
4) часовае суіснаванне хрысціянства з традыцыйнымі вераваннямі.

*Вызначыце правільную паслядоўнасць:*

**11.** А) аб’яднанне родаў у плямёны;
Б) бронзавы век на тэрыторыі Беларусі;
В) пераход першабытных людзей да аселага ладу жыцця;
Г) рассяленне індаеўрапейцаў у Еўропе.

**12.** А) першае прыгадванне ў гістарычных крыніцах Берасця;
Б) першае прыгадванне ў гістарычных крыніцах Менска;
В першае прыгадванне ў гістарычных крыніцах Полацка;
Г) першае прыгадванне ў гістарычных крыніцах Турава.

**13.** А) першы прыклад манаства на ўсходнеславянскіх землях;
Б) рэлігійна-асветніцкая дзейнасць Еўфрасінні Полацкай;
В) утварэнне епархіі ў Полацку;
Г) хрышчэнне Русі.

*Суаднясіце верна элементы двух мностваў:*

**14.** 1) 8 тыс. гадоў да н. э.; 3) 3 тыс. гадоў да н. э.;
2) 4 тыс. гадоў да н. э.; 4) 2,5 тыс. гадоў да н. э.
А) вынаходніцтва першабытным чалавекам вырабу глінянага посуду;
Б) пачатак пасляледавіковага перыяду на тэрыторыі Беларусі;
В) пераход насельніцтва Паўднёвай Беларусі да жывёлагадоўлі;
Г) рассяленне індаеўрапейцаў на тэрыторыі Беларусі.

1 __ 2 __ 3 __ 4 __

**15.** 1) верв; 3) вотчына;
2) віра; 4) волак.
А) судовы штраф ва ўсходніх славян;
Б) месца найбольшага збліжэння суднаходных рэк;
В) абшчына ва ўсходніх славян;
Г) форма феадальнага землеўладання, заснаваная на праве перадачы па спадчыне.

1 __ 2 __ 3 __ 4 __

**16.** 1) «Аповесць мінулых гадоў»; 3) крыж Лазара Богшы;
2) «Слова аб палку Ігаравам»; 4) Тураўскае Евангелле.
А) заклік да яднання і аднаўлення магутнасці ўсходнеславянскіх зямель;
Б) пачатак летапісання на ўсходнеславянскіх землях;
В) прыклад ювелірнага мастацтва;
Г) самы ранні прыклад гістарычна вядомых на Беларусі рукапісных кніг.

1 __ 2 __ 3 __ 4 __

*Вызначце верна гістарычнае паняцце (тэрмін) ці гістарычную назву (імя).*

**17.** Абшчына, у якой роднасць членаў лічылася па мужчынскай лініі – гэта ... .

**18.** Натуральны падатак, які выплочвала князю падуладнае насельніцтва – гэта ... .

**19.** ... – навакольная частка старажытнага горада, пасяленне гараджан.

**20.** ... – апавяданне пра жыццёвы шлях і дзейнасць пэўнага рэлігійнага дзеяча.

***Варыянт 2***

*Вызначце верны варыянт адказу:*

**1.** Тып пасялення першабытнага чалавека, знойдзены каля вёсак Юравічы і Бердыж:

1) будан; 3) селішча;
2) гарадзішча; 4) стаянка.

**2.** Прылада працы, якая сведчыць аб прысвойваючым характары гаспадарання старажытнага чалавека:

1) барана-сукаватка; 3) матыка;
2) драўлянае рала; 4) палка-капалка.

**3.** Назва горада, які па звестках старажытных летапісаў быў адным з цэнтраў усходнеславянскага племяннога аб'яднання радзімічаў:

1) Гомель; 3) Полацк;
2) Менск; 4) Тураў.

**4.** Імя першага гістарычна вядомага князя ў Менску:

1) Барыс; 3) Рагвалод;
2) Глеб; 4) Усяслаў.

**5.** Старажытны беларускі горад – буйны цэнтр племяннога аб'яднання крывічоў:

1) 1;
2) 2;
3) 3;
4) 4.



**6.** Ва ўсходніх славян назва сухапутнага шляху гандлёвых адносін, які ляжыць паміж дзвюма рэкамі:

1) волак;
2) гасцінец;
3) павоз;
4) пагост.

**7.** Вярхоўны бог ва ўсходніх славян, культ якога выводзіцца з часоў індаеўрапейскай супольнасці бронзавага веку:

1) Бялун;
2) Велес;
3) Пярун;
4) Чур.

**8.** Агульны тэрмін для абазначэння рэлігійных вераванняў і культаў, звязаных са шматбожжам:

1) каталіцызм;
2) монатэізм;
3) хрысціянства;
4) язычніцтва.

**9.** Горад, дзе было створана самае ранняе Евангелле з тых, што захаваліся на сучаснай тэрыторыі Беларусі:

1) 1;
2) 2;
3) 3;
4) 4.




**10.** Падзеі беларускай гісторыі, якія адбыліся ў 992 г. і 1005 г., з'яўляюцца сведчаннем:

1) канфесійнага падзелу ў хрысціянстве;
2) масавага хрышчэння насельніцтва;
3) распаўсюджання каталіцтва на беларускіх землях;
4) распаўсюджання хрысціянства на беларускіх землях.

*Вызначыце правільную паслядоўнасць:*

**11.** А) барана-сукаватка;
Б) домніца;
В) матыка;
Г) палка-капалка.

**12.** А) барацьба Брачыслава Ізяславіча з Кіевам за волакі;
Б) бітва на Нямізе;
В) пачатак барацьбы Полацка супраць крыжакоў;
Г) паход кіеўскага князя Мсціслава на Полацк.

**13.** А) рэлігійна-асветніцкая дзейнасць Кірылы Тураўскага;
Б) утварэнне епархіі ў Тураве;

В) утварэнне епархіі ў Полацку;
Г) хрышчэнне Русі.

*Суаднясіце верна элементы двух мностваў:*

**14.** 1) 10–15 тыс. гадоў да н. э.;
2) 4–3 тыс. гадоў да н.э.;
3) 3–1,5 тыс. гадоў да н. э.;
4) пач. 2-га тыс. да н.э. – канец VIII ст. да н.э.
А) аб'яднанне родаў у плямёны;
Б) бронзавы век на тэрыторыі Беларусі;
В) пераход першабытных людзей да аселага ладу жыцця;
Г) рассяленне індаеўрапейцаў у Еўропе.

1 __ 2 __ 3 __ 4 __

**15.** 1) закупы; 3) радовічы;
2) «людзі»; 4) халопы.
А) катэгорыя залежных сялян, якія ўзялі ў феадала пазыку;
Б) катэгорыя залежных сялян, што працуюць на феадала на аснове складзенай дамовы;
В) катэгорыя сялян-слуг, якія цалкам страцілі асабістую свабоду;
Г) асабіста вольныя сяляне-абшчыннікі.

1 __ 2 __ 3 __ 4 __

**16.** 1) абраз; 3) плінфа;
2) галаснік; 4) скрыпторый.
А) замураваны ў сцяну храма посуд;
Б) майстэрня па перапісцы кніг;
В) прыклад станкавага жывапісу;
Г) шырокая і плоская абпаленая цэгла.

1 __ 2 __ 3 __ 4 __

*Вызначце верна гістарычнае паняцце (тэрмін) ці гістарычную назву (імя):*

**17.** Абшчына, у якой роднасць членаў лічылася па жаночай лініі – гэта ... .

**18.** ... – атрад узброеных і спецыяльна навучаных ваеннай справе людзей.

**19.** ... – гэта ўмацаваная частка старажытнага горада.

**20.** Невялікі рэлігійны твор з павучальным зместам – гэта ... .

# VII КЛАС
# Гісторыя Беларусі: другая палова XIII – першая палова XVI ст.

## Раздзел 1. Беларускія землі ў сярэдзіне XIII–XIV ст.

### *Варыянт 1*

*Вызначце верны варыянт адказу:*

**1.** Дата, на якую прыпадае першае прыгадванне ў гістарычных крыніцах тэрміна «Літва»:

1) 1009 г.;
2) 1019 г.;
3) 1140 г.;
4) 1235 г.

**2.** Рэгіен, які стаў цэнтрам аб'яднання беларускіх і літоўскіх земляў у адзіную дзяржаву ў XIII ст.:

1) Аўкштота;
2) Жамойць (Жмудзь);
3) Галіцка-Валынская Русь;
4) Чорная Русь (Верхняе Панямонне).

**3.** Першы гістарычна вядомы князь ВКЛ:

1) Вітаўт;
2) Войшалк;
3) Міндоўг;
4) Альгерд.

**4.** Прынцып дзяржаўнага кіравання ў ВКЛ у XV ст., уведзены яшчэ Гедымінам:

1) «Васал майго васала – мой васал»;
2) «Паветра сярэдневяковага горада робіць чалавека свабодным»;
3) «Не кранаць даўніны, не ўводзіць навіны»;
4) «Чыя вера – таго і ўлада».

**5.** У гісторыі ВКЛ у 1260, 1331, 1348 гг. адбылося (адбыліся):

1) ваенныя паходы ВКЛ на Маскву;
2) паспяховыя бітвы з крыжакамі;
3) паспяховыя бітвы з мангола-татарамі;
4) юрыдычнае замацаванне прыгонніцтва.

*Вызначыце правільную паслядоўнасць:*

**6.** А) Войшалк;
Б) Гедымін;
В) Міндоўг;
Г) Альгерд.

*Суаднясіце верна элементы двух мностваў:*

**7.** 1) 1260 г.; 3) 1348 г.;
2) 1331 г.; 4) 1363 г.

А) бітва на р. Акмяне; В) бітва на р. Сінія Воды;
Б) бітва на р. Стрэве; Г) бітва ля возера Дурбе.

1 __ 2 __ 3 __ 4 __

**8.** 1) архітэктура; 3) перапісванне кніг;
2) жывапіс; 4) ювелірнае мастацтва.

А) абарончы характар пабудоў;
Б) абраз;
В) вокладка Лаўрышаўскага Евангелія;
Г) ініцыял.

1 __ 2 __ 3 __ 4 __

*Вызначце верна гістарычнае паняцце (тэрмін):*

**9.** Форма кіравання ў ВКЛ – гэта ... .

**10.** ... – аб'яднанне дзвюх дзяржаў пад уладай аднаго манарха.

### *Варыянт 2*

*Вызначце верны варыянт адказу:*

**1.** Дата, на якую прыпадае першае прыгадванне ў гістарычных крыніцах тэрміна «Літва Міндоўга»:

1) 1009 г.; 3) 1235 г.;
2) 1019 г.; 4) 1253 г.

**2.** Старажытны беларускі горад, які стаў цэнтрам аб'яднання беларуска-літоўскіх зямель у XIII ст.:

1) Вільня; 3) Наваградак;
2) Менск; 4) Полацак.

**3.** Вялікі князь літоўскі, пры якім сталіца ВКЛ была перанесена ў Вільню:

1) Вітаўт; 3) Міндоўг;
2) Гедымін; 4) Альгерд.

**4.** Адна з галоўных асаблівасцей працэсу стварэння ВКЛ:

1) адсутнасць барацьбы за першанства ў збіранні зямель;
2) перавага знешнепалітычных фактараў над унутрыпалітычнымі;

3) перавага ўнутрыпалітычных фактараў над знешнепалітычнымі;
4) больш хуткія тэмпы ў параўнанні з агульнаеўрапейскімі тэндэнцыямі дзяржаваўтварэння.

**5.** У гісторыі ВКЛ у 1368, 1370, 1372 гг. адбылося (адбыліся):

1) ваенныя паходы ВКЛ на Маскву;
2) паспяховыя бітвы з крыжакамі;
3) паспяховыя бітвы з мангола-татарамі;
4) юрыдычнае замацаванне прыгонніцтва.

*Вызначыце правільную паслядоўнасць:*

**6.** А) бітва пад Сінімі Водамі;
Б) гістарычна першы ў ВКЛ прыклад каранавання вялікага князя;
В) паходы Альгерда на Маскву;
Г) перанос сталіцы ВКЛ у Вільню.

*Суаднясіце верна элементы двух мностваў:*

**7.** 1) 1345 г.;
2) 1385 г.;
3) 1392 г.;
4) 1399 г.

А) бітва на р. Ворскле;
Б) пагадненне аб сумесным кіраванні Альгерда і Кейстута;
В) Востраўскае пагадненне;
Г) Крэўская унія.

1 __ 2 __ 3 __ 4 __

**8.** 1) архітэктура;
2) дэкаратыўна-прыкладное мастацтва;
3) перапісванне кніг;
4) фальклор.

А) замкі-кастэлі;
Б) «звярыны стыль»;
В) казкі і паданні;
Г) прадметы мелкай пластыкі.

1 __ 2 __ 3 __ 4 __

*Вызначце верна гістарычнае паняцце (тэрмін):*

**9.** ... – гэта вышэйшы судовы орган у ВКЛ, які існаваў да 1581 г.

**10.** ... – гэта заканадаўчы акт, выдадзены вялікім князем літоўскім, згодна з якім надаваліс ці пацвярджаліс асабістыя правы феадалаў ці іншых груп насельніцтва.

## Раздзел 2. Беларускія землі ў канцы XIV – сярэдзіне XVI ст.

### *Варыянт 1*

*Вызначце верны варыянт адказу:*

**1.** Бітва, якая адбылася ў XV ст.:

1) бітва на р. Ворскле;
2) бітва на р. Стрэве;
3) бітва пад Грунвальдам;
4) бітва пад Клецкам.

**2.** Магістр, які ўзначальваў войска Тэўтонскага Ордэна ў 1410 г.:

1) Фрыдрых фон Бланкенштэйн;
2) Конрад фон Валенрод;
3) Ульрых фон Юнгінген;
4) Крыштаф фон Герсдорф.

**3.** Вялікі князь літоўскі, пры якім была пачата кадыфікацыя права ў ВКЛ:

1) Вітаўт;
2) Жыгімонт I Стары;
3) Казімір IV;
4) Ягайла.

**4.** У XV ст. у ВКЛ Полацкае і Мсціслаўскае ваяводствы – гэта:

1) ваяводствы, якія не падзяляліся на паветы;
2) ваяводствы, якія сталі цэнтрамі выступленняў буйных магнатаў супраць вялікакняжацкай улады;
3) ваяводствы, у якіх была распачата рэалізацыя мерапрыемстваў аграрнай рэформы Жыгімонта II Аўгуста;
4) тэрыторыі, якія былі ахоплены буйным антыфеадальным выступленнем сялян.

**5.** Горад, у якім Ф. Скарына выдаў у 1517 г. «Псалтыр»:

1) Брэст;
2) Вільня;
3) Полацк;
4) Прага.

*Вызначыце правільную паслядоўнасць:*

**6.** А) бітва пад Грунвальдам;
Б) Лівонская вайна;
В) мяцеж М. Глінскага;
Г) Торуньскі мір.

*Суаднясіце верна элементы двух мностваў:*

**7.** 1) 1447 г.; 3) 1529 г.;
2) 1468 г.; 4) 1558 г.

А) пачатак Лівонскай вайны; В) Судзебнік Казіміра IV;
Б) Прывілей Казіміра IV; Г) І Статут ВКЛ.

1 __ 2 __ 3 __ 4 __

**8.** 1) кнігавыданне; 3) мемуарная літаратура;
2) лацінамоўная літаратура; 4) мецэнацтва.

А) М. Гусоўскі;
Б) Ф. Еўлашоўскі;
В) М. Радзівіл Чорны, Бона Сфорца;
Г) Ф. Скарына, С. Будны, В. Цяпінскі.

1 __ 2 __ 3 __ 4 __

*Вызначце верна гістарычнае паняцце (тэрмін):*

**9.** Адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў ВКЛ з XV ст., якая складалася з некалькіх валасцей – гэта ... .

**10.** З канца XV ст. уладу вялікага князя ў ВКЛ абмяжоўвала ... .

### Варыянт 2

*Вызначце верны варыянт адказу:*

**1.** Бітва, якая адбылася ў XV ст.:

1) бітва на р. Ворскле; 3) бітва пад Вількамірам;
2) бітва на р. Стрэве; 4) бітва пад Клецкам.

**2.** Галоўны вынік Грунвальдскай бітвы:

1) заваёва ВКЛ выйсця да Балтыйскага мора;
2) замацаванне за Тэўтонскім ордэнам значных тэрытарыяльных заваёў;
3) спыненне агрэсіі крыжакоў на ўсходнеславянскіх землях;
4) заваёва ВКЛ выйсця да Чорнага мора.

**3.** Вялікі князь літоўскі, пры якім быў пакладзены пачатак юрыдычнаму афармленню прыгоннага права ў ВКЛ:

1) Вітаўт; 3) Казімір IV;
2) Жыгімонт І Стары; 4) Ягайла.

**4.** Вільня і Берасце – гэта:

1) гарады, якія першымі ў ВКЛ атрымалі магдэбургскае права;
2) гарады ВКЛ, якія сталі месцамі буйных антыфеадальных выступленняў гараджан;
3) рэзідэнцыі ўладароў дзяржавы;
4) цэнтры ваяводстваў.

**5.** Беларускі горад, у якім у 1553 г. пачала дзейнічаць першая друкарня:

1) Брэст;
2) Вільня;
3) Полацк;
4) Прага.

*Вызначыце правільную паслядоўнасць:*

**6.** А) выданне I Статута ВКЛ;
Б) выданне II Статута ВКЛ;
В) Судзебнік Казіміра IV;
Г) Прывілей Казіміра IV.

*Суаднясіце верна элементы двух мностваў:*

**7.** 1) 1401 г.;
2) 1410 г.;
3) 1411 г.;
4) 1413 г.

А) бітва пад Грунвальдам;
Б) Віленска-Радамская унія;
В) Гарадзельскі прывілей;
Г) Торуньскі мір.

1 __ 2 __ 3 __ 4 __

**8.** 1) С. Будны, В. Цяпінскі;
2) М. Гусоўскі;
3) М. Літвін;
4) Ф. Скарына.

А) «Аб норавах татар, літвінаў і маскавітаў»;
Б) «Малая падарожная кніжыца»;
В) «Песня пра зубра»;
Г) палемічная літаратура.

1 __ 2 __ 3 __ 4 __

*Вызначце верна гістарычнае паняцце (тэрмін):*

**9.** ... – гэта ваенная арганізацыя царкоўных і свецкіх феадалаў.

**10.** У ВКЛ з XV ст. вышэйшы саслоўна-прадстаўнічы орган дзяржаўнага кіравання – гэта ... .

## *Выніковы тэст*. Гісторыя Беларусі: другая палова XIII – першая палова XVI ст.

### *Варыянт 1*

*Вызначце верны варыянт адказу:*

**1.** Вялікі князь літоўскі, які быў на чале войска ВКЛ у бітве на р. Стрэве:

1) Альгерд;
2) Вітаўт;
3) Гедымін;
4) Ягайла.

**2.** Грунвальдская бітва адбылася ў:

1) 1399 г.;
2) 1409 г.;
3) 1410 г.;
4) 1435 г.

**3.** Пражыванне на тэрыторыі ВКЛ татараў, цыганаў, яўрэяў і прадстаўнікоў іншых этнасаў з’яўляецца сведчаннем:

1) ганенняў на пратэстантаў у краінах Еўропы;
2) поліэтнічнага складу дзяржавы;
3) развіцця гаспадарчых адносін;
4) фарміравання беларускай народнасці.

**4.** Дата пражскага выдання Бібліі ўсходнеславянскім і беларускім першадрукаром Ф. Скарынай:

1) 1503 г.;
2) 1517 г.;
3) 1522 г.;
4) 1537 г.

**5.** Старажытны беларускі горад – цэнтр выступлення буйных магнатаў супраць вялікакняжацкай улады ў пачатку XVI ст.:

1) 1;
2) 2;
3) 3;
4) 4.




**6.** У ВКЛ «непахожыя» сяляне – гэта:

1) катэгорыя залежных сялян, якія мелі права пераходу ад аднаго феадала да іншага;
2) катэгорыя залежных сялян, якія не мелі права пераходу ад аднаго феадала да іншага;

3) катэгорыя сялян, якія не мелі сваёй уласнай гаспадаркі;
4) катэгорыя залежных сялян, галоўнай формай зямельнай рэнты якіх быў чынш.

**7.** Вялікі князь літоўскі, у час праўлення якога пачаўся працэс кадыфікацыі права ў ВКЛ:

1) Альгерд;
2) Гедымін;
3) Казімір IV;
4) Ягайла.

**8.** Фактар, які адыграў вызначальную ролю ў працэсе ўмацавання праваслаўнай царквы ў ВКЛ у XIII–XIV стст.:

1) другарадны стан праваслаўя ў Польшчы;
2) імкненне да царкоўна-рэлігійнай уніі;
3) распаўсюджанне хрысціянства ў краінах Еўропы;
4) талерантная палітыка вялікіх князёў літоўскіх.

**9.** Горад у ВКЛ, у якім дзейнічала першая на ўласнабеларускіх землях друкарня:

1) 1;
2) 2;
3) 3;
4) 4.

**10.** Дэталь мастацкага аздаблення з каляровага шкла ў архітэктурных пабудовах:

1) мініяцюра;
2) вітраж;
3) мазаіка;
4) фрэска.

*Вызначыце правільную паслядоўнасць:*

**11.** А) бітва на р. Ворскле
Б) бітва пад Грунвальдам;
В) бітва на р. Сінія Воды;
Г) бітва на р. Стрэве.

**12.** А) выданне I Статута ВКЛ;
Б) выданне II Статута ВКЛ;
В) выданне Прывілея Казіміра IV;
Г) выданне Судзебніка Казіміра IV.

**13.** А) наданне Брэсту магдэбургскага права;
Б) наданне Вільне магдэбургскага права;
В) наданне Гродна магдэбургскага права;
Г) наданне Менску магдэбургскага права.

*Суаднясіце верна элементы двух мностваў:*

**14.** 1) Вітаўт;
2) Казімір IV;
3) Альгерд;
4) Ягайла.

А) Салінскае пагадненне з крыжакамі;
Б) першы ў гісторыі ВКЛ і Польшчы прыклад міждзяржаўнай уніі;
В) паспяховыя ваенныя паходы на Маскву;
Г) пачатак кадыфікацыі права ў ВКЛ.

1 __ 2 __ 3 __ 4 __

**15.** 1) кіраванне лавай у магістраце;
2) кіраванне радай ў магістраце;
3) кіраванне рамесным цэхам;
4) кіраўніцтва паспалітым рушаннем у паветах.

А) войт;
Б) бурмістр;
В) харунжы;
Г) цэхмістр.

1 __ 2 __ 3 __ 4 __

**16.** 1) захоўванне дзяржаўнай пячаткі і кіраўніцтва вялікакняжацкай канцылярыяй;
2) захоўванне дзяржаўнай казны;
3) кіраванне вялікакняжацкімі замкамі;
4) кіраванне ўзброенымі сіламі дзяржавы.

А) гетман;
Б) канцлер;
В) кашталян;
Г) падскарбі.

1 __ 2 __ 3 __ 4 __

*Вызначце верна гістарычнае паняцце (тэрмін) ці гістарычную назву (імя):*

**17.** ... – гэта, арыентаваная на патрэбы рынка гаспадарка феадала разам з існуючымі пабудовамі і зямельнымі ўгоддзямі.

**18.** Орган самакіравання ў гарадах с магдэбургскім правам – .. .

**19.** ... – хрысціянская царкоўна-адміністрацыйная адзінка ў межах пэўнай тэрыторыі.

**20.** Назва культурна-гістарычнай эпохі ў развіцці еўрапейскай культуры ў XIV–XVI стст., якая характарызуецца аднаўленнем гуманістычнага светапогляду, уздымам свецкай навукі, літаратуры, мастацтва – .... .

***Варыянт 2***

*Вызначце верны варыянт адказу:*

**1.** Вялікі князь літоўскі, які быў на чале войска ВКЛ у бітве на Сініх Водах:

1) Альгерд;
2) Вітаўт;
3) Гедымін;
4) Ягайла.

**2.** Бітва пад Вількамірам адбылася ў:

1) 1363 г.;
2) 1410 г.;
3) 1435 г.;
4) 1506 г.

**3.** Пражыванне на тэрыторыі ВКЛ татараў, цыганаў, яўрэяў і прадстаўнікоў іншых этнасаў з'яўляецца сведчаннем:

1) ганенняў на пратэстантаў у краінах Еўропы;
2) развіцця гандлёвых адносін;
3) талерантнай палітыкі вялікіх князёў літоўскіх;
4) фарміравання беларускай народнасці.

**4.** Дата выдання першай на ўсходнеславянскіх землях кнігі:

1) 1499 г.;
2) 1507 г.;
3) 1517 г.;
4) 1522 г.

**5.** Горад у ВКЛ, які з'яўляўся рэзідэнцыяй вялікага князя літоўскага:

1) 1;
2) 2;
3) 3;
4) 4.




**6.** У ВКЛ «пахожыя» сяляне – гэта:

1) катэгорыя залежных сялян, якія мелі права пераходу ад аднаго феадала да іншага;
2) катэгорыя залежных сялян, якія не мелі права пераходу ад аднаго феадала да іншага;
3) катэгорыя сялян, якія не мелі ўласнай гаспадаркі;
4) катэгорыя залежных сялян, галоўнай формай зямельнай рэнты якіх быў чынш.

**7.** Вялікі князь літоўскі, у час праўлення якога пачалося паступовае абмежаванне манархіі ў ВКЛ:

1) Альгерд;
2) Гедымін;
3) Казімір IV;
4) Ягайла.

**8.** Умовы Крэўскай і Гарадзельскай уній сведчаць аб:

1) другарадным стане каталіцызма ў ВКЛ;
2) імкненні палітычных колаў ВКЛ да царкоўна-рэлігійнай уніі;
3) талерантнай палітыцы вялікіх князёў літоўскіх;
4) умацаванні пазіцый каталіцкай царквы ў ВКЛ.

**9.** Беларускі горад, які з'яўляецца радзімай аўтара «Малой падарожнай кніжыцы»:




1) 1;
2) 2;
3) 3;
4) 4.

**10.** Пануючы мастацкі стыль у развіцці архітэктуры ВКЛ XIV–XV стст.:

1) ампір;
2) барока;
3) готыка;
4) раманскі.

*Вызначыце правільную паслядоўнасць:*

**11.** А) бітва пад Вількамірам;
Б) бітва пад Грунвальдам;
В) бітва пад Клецкам;
Г) выступленне магнатаў і шляхты на чале з М. Глінскім.

**12.** А) выданне I Статута ВКЛ;
Б) пачатак грамадзянскай вайны ў ВКЛ;
В) пачатак юрыдычнага замацавання прыгонніцтва;
Г) паход кадыфікацыі права ў ВКЛ.

**13.** А) наданне Брэсту магдэбургскага права;
Б) наданне Гродна магдэбургскага права;
В) наданне Менску магдэбургскага права;
Г) наданне Полацку магдэбургскага права.

*Суаднясіце верна элементы двух мностваў:*

**14.** 1) Аляксандр Казіміравіч; 3) Жыгімонт II Аўгуст;
2) Жыгімонт I Стары; 4) Свідрыгайла.

А) буйное выступленне магнатаў на чале з М. Глінскім супраць вялікакняжацкай улады;
Б) выданне вялікакняжацкага Прывілея 1492 г.;
В) грамадзянская вайна ў ВКЛ;
Г) пачатак Лівонскай вайны.

1 __ 2 __ 3 __ 4 __

**15.** 1) апалчэнне; 3) дым;
2) лава, рада; 4) унія.

А) аб'яднанне дзяржаў; В) сялянская гаспадарка;
Б) магдэбургскае права; Г) паспалітае рушанне.
1 __ 2 __ 3 __ 4 __

**16.** 1) кіраўніцтва войскам;
2) кіраўнік канцылярыі вялікага князя;
3) распарадчык дзяржаўнай казной;
4) кіраванне на паседжаннях рады і сойма.

А) гетман; В) падскарбі;
Б) канцлер; Г) маршалак.

1 __ 2 __ 3 __ 4 __

*Вызначце верна гістарычнае паняцце (тэрмін) ці гістарычную назву (імя):*

**17.** ... – гэта грашовая форма аброку, якую павінны былі выконваць прыгонныя сяляне на карысць феадала.

**18.** ... – абраная пасада кіраўніка рамеснага цэха.

**19.** ... – пэўнае веравызнанне; аб'яднанне вернікаў, якія прытрымліваюцца пэўнага веравызнання.

**20.** Прызнанне каштоўнасці чалавека як асобы, яго права на свабоднае развіццё і праяву сваіх здольнасцей – гэта ... .

# VIII КЛАС
# Гісторыя Беларусі: другая палова XVI – XVIII ст.

## Раздзел 1. Беларусь у другой палове XVI – першай палове XVII ст.

### *Варыянт 1*

*Вызначце верны варыянт адказу:*

**1.** Назва дзяржавы, узнікненне якой з'явілася адным з вынікаў заключэння Люблінскай уніі:

1) Вялікае Княства Літоўскае;
2) Вялікае Княства Маскоўскае;
3) Лівонія;
4) Рэч Паспалітая.

**2.** Кароль Польшчы і вялікі князь літоўскі, пры якім пачала ажыццяўляцца нейтралізацыя негатыўных наступстваў Люблінскай уніі для ВКЛ:

1) Генрых Валезы;
2) Жыгімонт І Стары;
3) Жыгімонт ІІ Аўгуст;
4) Стэфан Баторый.

**3.** Прававы акт, згодна з якім адбывалася рэалізацыя мерапрыемстваў аграрнай рэформы Жыгімонта ІІ Аўгуста:

1) Гарадзельскі прывілей;
2) «Лясная устава»;
3) ІІІ Статут ВКЛ;
4) «Устава на валокі».

**4.** Дата заключэння Паляноўскага міра:

1) 1596 г.;
2) 1618 г.;
3) 1629 г.;
4) 1634 г.

**5.** Агульная назва хрысціянскіх веравучэнняў, якія ўзніклі ў XVI ст. у форме пратэсту супраць афіцыйнага каталіцтва:

1) ерась;
2) пратэстантызм;
3) схізма;
4) уніяцтва.

*Вызначыце правільную паслядоўнасць:*

**6.** А) утварэнне Галоўнага трыбунала;
Б) заканчэнне Лівонскай вайны;

В) прыняцце III Статута ВКЛ;
Г) пачатак аграрнай рэформы Жыгімонта II Аўгуста.

*Суаднясіце верна элементы двух мностваў:*

**7.** 1) вызваленне Полацка войскамі Стэфана Баторыя;
2) захоп Полацка войскамі Івана IV;
3) падпісанне акта Люблінскай уніі;
4) падпісанне Ям-Запольскага міра.

А) 15 лютага 1563 г.;
Б) 1 ліпеня 1569 г.;
В) 30 жніўня 1579 г.;
Г) 15 снежня 1582 г.

1 __ 2 __ 3 __ 4 __

**8.** 1) аграрная рэформа ў ВКЛ;
2) Контррэфармацыя ў ВКЛ;
3) Рэфармацыя ў ВКЛ;
4) магдэбургскае права.

А) «Валочная памера»;
Б) ордэн езуітаў;
В) гарадское самакіраванне;
Г) кальвінізм.

1 __ 2 __ 3 __ 4 __

*Вызначце верна гістарычнае паняцце (тэрмін):*

**9.** ... – гэта рэлігійна-палітычная арганізацыя праваслаўнага насельніцтва ў ВКЛ.

**10.** У ВКЛ мера плошчы, роўная 21,36 га, а таксама адзінка падаткаабкладання – гэта ... .

### *Варыянт 2*

*Вызначце верны варыянт адказу:*

**1.** Ваенны канфлікт у Еўропе, уплыў якога стаў галоўным ва ўтварэнні Рэчы Паспалітай:

1) «Вялікая вайна»;
2) Лівонская вайна;
3) «Смаленская вайна»;
4) «Стогадовая вайна».

**2.** Вялікі князь літоўскі і кароль Польшчы, пры якім была заключана Люблінская ўнія:

1) Аляксандр Казіміравіч;
2) Жыгімонт I Стары;
3) Жыгімонт II Аўгуст;
4) Казімір IV.

**3.** Выдатны прававы помнік, паводле якога ўпершыню ў гісторыі ВКЛ было заканадаўча замацавана ўжыванне беларускай мовы ў афіцыйным справаводстве:

1) Судзебнік Казіміра IV;
2) I Статут ВКЛ;
3) II Статут ВКЛ;
4) III Статут ВКЛ.

**4.** Дата заключэння Дэўлінскага перамір'я:

1) 1596 г.;
2) 1618 г.;
3) 1629 г.;
4) 1634 г..

5. Член каталіцкага манаскага ордэна Ісуса, – гэта:

1) езуіт;
2) кальвініст;
3) прасол;
4) партач.

*Вызначыце правільную паслядоўнасць:*

**6.** А) падпісанне акта Люблінскай уніі;
Б) пачатак праўлення Стэфана Баторыя;
В) пачатак Лівонскай вайны;
Г) прыняцце III Статута ВКЛ.

*Суаднясіце верна элементы двух мностваў:*

**7.** 1) стварэнне Галоўнага Трыбунала;
2) заканчэнне Лівонскай вайны;
3) заключэнне Берасцейскай царкоўнай уніі;
4) прыняцце III Статута ВКЛ.

А) 1581 г.;
Б) 1583 г.;
В) 1588 г.;
Г) 1596 г.

1 __ 2 __ 3 __ 4 __

**8.** 1) «Валочная памера»;
2) завяршэнне Лівонскай вайны;
3) Контррэфармацыя ў ВКЛ;
4) Рэфармацыя ў ВКЛ.

А) Жыгімонт II Аўгуст, Бона Сфорца;
Б) Жыгімонт III Ваза, П. Скарга;
В) С. Будны, В. Цяпінскі;
Г) Стэфан Баторый, Іван IV.

1 __ 2 __ 3 __ 4 __

*Вызначце верна гістарычнае паняцце (тэрмін):*

**9.** Паняцце, якое характарызуе ўнутраную палітыку вялікіх князеў літоўскіх; цярплівасць і роўнасць у адносінах – гэта ... .

**10.** Выбарны адміністрацыйны і судовы орган гарадского самакіравання ў гарадах з магдэбургскім правам – гэта ... .

## Раздзел 2. Беларусь у другой палове XVII – першай палове XVIII ст.

### *Варыянт 1*

*Вызначце верны варыянт адказу:*

**1.** У гісторыі Беларусі падзеі 1654–1667 гг. – гэта:

1) вайна Рэчы Паспалітай з Расійскай дзяржавай;
2) вайна Рэчы Паспалітай з Швецыяй;
3) казацка-сялянская вайна;
4) Паўночная вайна.

**2.** Узброены казацкі атрад часоў казацка-сялянскай вайны 1648–1651 гг. – гэта:

1) выбранцы;
2) загон;
3) кап'ё;
4) харугва.

**3.** Храналагічныя межы буйнога выступленне сялян на Каменьшчыне:

1) 1700–1703 гг.;
2) 1740–1744 гг.;
3) 1754–1756 гг.;
4) 1756–1757 гг.

**4.** Прадстаўнікі гандлёвага саслоўя ў ВКЛ у XV–XVIII стст.:

1) госці;
2) кліентэла;
3) магнаты;
4) шляхта.

**5.** Навучальная ўстанова, адкрытая Я. Радзівілам у 1617 г. Сучаснікі называлі яе «Слуцкімі Афінамі» («Паўночнымі Афінамі»). Лічыцца правобразам першай беларускай гімназіі. Гэта:

1) Слуцкая кальвінская школа;
2) Слуцкая школа піяраў;
3) Слуцкая акадэмія езуітаў;
4) Слуцкая жаночая гімназія.

*Вызначыце правільную паслядоўнасць:*

**6.** А) Андросаўскае перамір'е; В) Кейданская унія;
Б) Віленскае перамір'е; Г) пачатак Паўночнай вайны.

*Суаднясіце верна элементы двух мностваў:*

**7.** 1) абарона Пінска;
2) бітва пад Лоевам;
3) бітва каля в. Лясная;
4) падпісанне Андросаўскага перамір'я.

А) 1648 г.; В) 1667 г.;
Б) 1649 г.; Г) 1708 г.

1 __ 2 __ 3 __ 4 __

**8.** 1) першы прыклад архітэктурнага стылю барока на тэрыторыі Беларусі;
2) дзейнасць першай у ВКЛ абсерваторыі;
3) «Паўночныя Афіны»;
4) родны горад С. Пятроўскага-Сітніяновіча.

А) Вільня; В) Слонім;
Б) Несвіж; Г) Полацк.

1 __ 2 __ 3 __ 4 __

*Вызначце верна гістарычнае паняцце (тэрмін):*

**9.** ... – гэта назва права, выкарыстанне якога стала адной з прычын зрыву ў 1652–1764 гг. 42 соймаў з 55 праведзеных у Рэчы Паспалітай.

**10.** Гвалтоўнае умяшальніцтва адной ці некалькіх дзяржаў ва ўнутраныя справы іншай краіны – гэта ... .

## *Варыянт 2*

*Вызначце верны варыянт адказу:*

**1.** У гісторыі Беларусі падзеі 1648–1651 гг. – гэта:

1) вайна Рэчы Паспалітай з Расійскай дзяржавай;
2) вайна Рэчы Паспалітай з Швецыяй;
3) казацка-сялянская вайна;
4) Паўночная вайна.

**2.** Удзельнікі партызанскіх атрадаў у вайне 1654–1667 гг. Рэчы Паспалітай з Расійскай дзяржавай – гэта:

1) выбранцы;
2) касінеры;
3) прысяжныя мужыкі;
4) шышы.

**3.** Храналагічныя межы буйнога выступленне сялян у Крычаўскім старостве:

1) 1700–1703 гг.;
2) 1740–1744 гг.;
3) 1754–1756 гг.;
4) 1756–1757 гг.

**4.** Капіталістычнае прадпрыемства, заснаванае на ручной працы і шырокім яе падзеле:

1) латыфундыя;
2) мануфактура;
3) рамесны цэх
4) фабрыка.

**5.** Першы прыклад архітэктурнага стылю барока на тэрыторыі Беларусі:

1) Гродзенскі фарны касцел;
2) Іўеўскі касцел бернардынаў;
3) Нясвіжскі фарны касцел;
4) Пінскі касцел францысканцаў.

*Вызначыце правільную паслядоўнасць:*

**6.** А) Андросаўскае перамір'е;
Б) казацка-сялянская вайна ў Рэчы Паспалітай;
В) пачатак Паўночнай ваны;
Г) «Маці Палтаўскай баталіі».

*Суаднясіце верна элементы двух мностваў:*

**7.** 1) барацьба магнацкіх груповак за ўладу;
2) вайна Расіі і Рэчы Паспалітай;
3) казацка-сялянская вайна;
4) Паўночная вайна.

А) 1648–1651 гг.;
Б) 1654–1667 гг.;
В) 1696–1700 гг.;
Г) 1700–1721 гг.

1 __ 2 __ 3 __ 4 __

**8.** 1) І. Капіевіч;
2) К. Лышчынскі;
3) К. Семяновіч;
4) Сімеон Полацкі.

